

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№5 (травень), 2015

# Мяжа




**Палітвязень Юры Рубцоў пажадаў суайчыннікам аптымізму**

(старонка 8)

## ЗЬМЕСТ

# “Беларуская кухарачка” на кулінарным фэсце ў Луцкім замку

Сёстры Вольга і Алена Талатынікі, якія стварылі сайт пра беларускую кухню, прынялі ўдзел у кулінарным фэсце, які праходзіў 3 і 4 траўня ў Луцкім замку ва Украіне.




Луцкій замак Любарта XIV стагоддзя – наймалодшага сына Гедыміна. На тэрыторыі замка цяпер знаходяцца разнастайныя музеі, напрыклад, музей званоў, друкарні.

У Луцку – гэта першы кулінарны фэст вулічнай ежы «Lutsk Food Fest». Каля 20 рэстарацый з Луцка, Львова і Кіева частавалі ўдзельнікаў смачнымі прысмакамі. Львоўскі кулінарны клуб “Здароўе і спакой ”прэзентаваў жыхарам і гасцям фэсту кухню Рэчы Паспалітай. Усе жадаючыя маглі прадыгуставаць алкагольныя напоі польскай гандлёвай маркі «Sopliсa».

Стравы ад “Берасцейскай кухарачкі”: флячкі па Львоўскі, суп-жур, бульбяная кішка, каўбаскі, карысталіся павышаным попытам.

Дарэчы, 50 адсодкаў сабранных грошай арганізатары фэсту перелічылі на патрэбы ўкраінскіх вайскоўцаў у зоне АТА.

Распавядае Вольга Талатынік: “Луцк чысты і прыгожы, атмасфера дабразычлівая. Пра вайну людзі не гавораць, але шмат бігбордаў, рэкламы пра збор коштаў на патрэбы ўкраінскай арміі. Фэст прайшоў на высокім узроўні, было шмат людзей, ежы хапіла аж да позняга вечара, слухалі канцэрт рок-гурта. Ні аховы, ні міліціянтаў не было бачна, але і не было ніякіх беспарадкаў, хаця частавалі дармовым пітвам. Усё праходзіла спакойна і культурна. У Луцку захаваўся стары горад з брукаванкай».

На кухні больш давялося папрацаваць Алене, якую гледачы

каналу на ютубе ведаюць як майстрыцу «Берасцейскай кухарачкі», яна падзялілася таксама сваімі ўражаннямі: «Мне вельмі спадабалася працаваць з прафесійнымі кухарамі з Львоўскага кулінарнага клуба. Яны раскрылі мне свае сакрэты гатавання флячек, а я ў сваю чаргу распавяла пра ўжыванне спецыяў у сваіх стравах”.

Наогул, асноўнай мэтай фэсту было прадэмантраваць гасцям кухню былой Рэчы Паспалітай, а гэта значыць украінскую, беларускую, польску, літоўскую. І нашым кухарачкам гэта цудоўна атрымалася.

## Ня вер, не бойся, не прасі!

31 траўня ў гарацкім паселішчы Мікшевічы прайшоў трэнінг па тэме: “Вас затрымала міліцыя”. Трэнінг распачаўся з “затрымання” - ролевай гульні. 2 псеўда міліцыянты затрымалі “мінака”.



Супольна быў зроблены аналіз сітуацыі. Прысутным патлумачылі правы затрыманага і як сябе трэба паводзіць у камунікацыі з супрацоўнікамі міліцыі і ў якія структуры можна скардзіцца на супрацпраўныя дзеянні міліцыяю.

Прысутных таксама азнаёмілі з міжнароднымі стандартамі паводзінаў работнікаў праваахоўных органаў.

Напрыканцы мерапрыемства, пасля прагляду фільмаў аб затрыманні і допытах, адбылася дэталёвая дыскусія, якая завершылася высновай, што ва ўзаемаадносінах з міліцыяй канчатковая формула паводзінаў: “Ня вер, не бойся і не прасі”.

## “Мова на нова”, да сустрэчы ў верасні!

30 траўня ў Берасці прайшлі апошнія заняткі ў навучальным сезоне 2014-2015 моўных курсаў “Мова Нанова”. У першай частцы



сустрэчы адбылося падсумаванне вынікаў працы курсаў беларускай мовы ў Берасці. Лепшыя слухачы атрымалі ўзнагароды ад "Мовы Нанова" за актыўны ўдзел у навучанні.

Падарункам для ўдзельнікаў сустрэчы стаў выступ Ігара Варашкевіча, аднаго з салістаў вядомага гурта “Крама”. Берасцейцы, якім добра вядомая творчасць гурта, спявалі “Бяжы, хлопец, бяжы…” і іншыя творы разам з музыкам.

На выпускной вечарыне быў яшчы адна неспадзяванка. Адна з

“Берасцейскіх кухарачак”, Алена Талатыннік пачаставала прысутных смачным дэсертам “Тырамісу” ад стваральнікаў праекту беларускай шляхетнай кухні. Раім пашукаць і пазнаёміцца з праектам “Берасьцейская Кухарачка” ў сеціве.

Удзельнікі моўных курсаў развіталіся да пачатку новага навучальнага года.

Да сустрэчы ў Верасьні!

## Месца транспартыроўкі і перагрузкі радыактыўнай руды

Культурнай сталіцай Беларусі ў гэтым годзе стаў старажытны горад Берасце.




Шмат мерапрыемстваў гарадскія ўлады падрыхтавалі ў рамках акцыі “Брэст – культурная сталіца Беларусі 2015 года”. Адным з такіх мерапрыемстваў з’яўляецца экскурсыя ў Брэсцкі музей чыгуначнай тэхнікі, які заснаваны 15 траўня 2002 года. Экспазіцыя музея прадстаўлена экспанатамі рухомага складу ў колькасці 56 адзінак.

Аднак карэнныя берасцейцы не спяшаюцца наведваць гэтае

месца, бо дакладна ведаюць, што музей чугункі пабудованы на месцы транспартыроўкі і перагрузкі радыактыўнай руды, якую вазілі з Нямеччыны ў Расею праз наш горад. Гетае месца вядомае пад назвай “аб'ект 802”, а насамрэч – станцыя перагрузкі ўранавай руды).

Берасьцейцы памятаюць, калі аднойчы японцы па дарозе ў Брэсцкую крэпасць, да якой адсюль некалькі сот метраў, раптам папрасілі спыніццаі і развярнуть картэж ў адваротны бок. Як апынулася, у ніх зашкалівалі дазыметры, “фаніла” больш чым у 80 разоў.

Экскурсія ў чугуначны музей вемі цікавая для школьнікаў, студентаў, але трэба ведаць пра нябеспеку аб якой маўчыць улада горада і работнікі музея.

## Апошні званок з нацыянальным каларытам




Выпускнікі пачатковай школы №34 горада Берасця беларускамоўнага класа на апошні званок апранулі стужкі выпускніка з нацыянальным арнаментам.

Стужкі для выпускнікоў зрабілі бацькі вучняў, бо ведалі, што

адпаведна ідэалагічным устаноўкам школы ўпрыгожываюць свята чырвона-зялёным колерам. Каб запабегчы "правакацыі" і ня даць запусціць у паветра белыя і чырвоныя балонікі, адміністрацыя школы загадзя сабрала грошы і закупіла адпаведна ідэалагічным патрабаванням зялёныя і чырвоныя шары, вышыванкі таксама былі непажаданыя ў школе. Але адна маці разам з сынам-вучням прыйшлі на школьную лінейку ў вышыванках. Пяцёра выпускнікоў беларускага класса звярнулі на сябе ўвагу, калі прыйшлі на лінейку "Апошні званок" са стужкамі выпускніка з нацыянальным арнаментам на відавоку перад усёй пачатковай школай.

Вучні адзінага беларускага класа ў Берасці збіраюцца і надалей разам атрымліваць веды па-беларуску.

## Палітвязень Юры Рубцоў пажадаў суайчыннікам аптымізму

27-28 траўняў Пружанах адбываўся суд над грамадзкім актывістам, палітвязнем Юрыям Рубцовым, які адбываў пакаранне ў ПУАТ у вёсцы Куплін. Ён быў асуджан на паўтара года „хіміі" нібыта за абразу суддзі, а фактычна за кашульку з надпісам „Лукашэнка, сыходзь" на Чарнобыльскім шляху ў мінулым годзе. Гэтым разам ужо вязьня абвінавацілі ва ўхіленні ад адбыцця пакарання, нібыта за адмову працаваць на "хіміі", што вызначана законам .



На суд прыехала яго жонка Ядвіга разам з сынам Віктарам з Гомеля. На судзе прысутнічалі неабыякавыя грамадзяне з розных гарадоў Беларусі: Брэста, Гомеля, Пружан, Бярозы, Мінска…

*Распавядае Алесь Мех з Кобрына*: "Пад'ехала машына са зняволеным, міліцыянты адчынілі дзверы і доўга не выпускалі вязня, гаварылі, што там нікога няма. Але ж мы дачакаліся, пакуль выйдзе Юрый. Я не пазнаў яго, бо добра ведаў яго ў твар. Гэта быў схуднелы чалавек з апалымі шчокамі, згорбліны, ў кайданках. Ён трымаў галадоўку пратэсту больш за 50 дзён."

У зале суда Юры Рубцоў зняў кашулю, на яго целе быў надпіс "Лукашенко сыходзь". Суддзя звяртаўся да яго неаднаразова, каб ён апрануў кашулю, але Юры не пагадзіўся, сказаў, што ў іншым судзе яго наадварот распранулі данага і знялі кашулю, дзе было напісана "Лукашенко сыходзь". Судзя гэты аргумент прыняў і дазволіў яму не апраняць кашулю і ў такім стане Рубцоў быў да канца паседжання. Суд праццягваўся доўга, было апытана шмат сведкаў, як міліцыянтаў так і тых, хто сядзіць на гэтым пасяленні разам з Рубцовым. Міліцыянты сведчылі, што Рубцоў вядзе сябе задзірліва, але зняволеныя сведчылі, што Рубцоў сябе паводзіў вельмі спакойна, ніколі не адмоўляўся ад працы, і патрабаваў забяспечыць яго працай з сярэднім заробкам у краіне.

На другі дзень пасяджэнне суда Юры Рубцоў прыйшоў у кашулі з бел-чырвона-белай стужкай.

У заключным слове напрыканцы суда Рубцоў выступіў з вельмі моцнай прамовай, дзе ён не проста распавёў тэхнічны бок сваёй справы,але ж таксама закрануў усю палітычную сістэму краіны. Ён проста чалавек, які жыў па законе і іх выконываў. А сёняшні вырак, гэта не прысуд суда, а адлюстраванне сутнасці ўлады – за неасцярожна сказанае слова можна атрымаць і 10 гадоў…

Суддзя **Мікалай Рэпіха** засудзіў апазіцыянера да двух гадоў зняволення ў калоніі агульнага рэжыму з улікам не адбытага тэрміну.

Юры Рубцоў заявіў, што будзе абскарджваць прысуд, які ён лічыць несправядлівым.

Канвой выдаліў прысутных з судовай залы але дазволіў сваякам пагаварыць з вязням. Пасля сустрэчы сын Юрыя Віктар расказаў, што

бацька прасіў перадаць яму кнігі на беларускай мове, бо ён будзе за кратамі ўдасканаўліваць сваю беларускую мову. А што да прысуда, то Юры Рубцоў сказаў, што для яго шчасьце такі прысуд, які агаляе сутнасць рэжыму, выстаўляе ў смешным выглядзе. Мэта галадоўкі, адкрытае паседжанне суду, была дасягнута. На гэтым ён галадоўку спыняе. Будзе вучыць беларускую мову. Цікавіўся падзеямі ва Ўкраіне. Непакоіўся за сына, жонку, паабяцаў, што ўсё будзе добра.

Суайчыннікам Юры Рубцоў пажадаў аптымізму

*Праваабаронца Уладзімір Вялічкін з Берасця*: "Юры Рубцоў не палітык – звычайны грамадзянін, якіх большасьць у Беларусі. Ён жыў па законах, нічога не парушаў і нікаму не замінаў. Але аднойчы прэзідэнт паабяцаў сярэдні заробак у 600 даляраў і як заўжды ашукаў…

Больш за 20 гадоў беларусам абяцаюць вясёлкавыя перспектывы. Гэткае "шырлі-мырлі", але эканоміка як ляжала, так і ляжыць, годнай працы няма, заробкаў не кожнаму хапае на харчы. Затое ёсць кары за "дармаедства", "незапрацаваны прыбытак", ліміты на жытло, і камунальныя паслугі. Дармовая адукацыя і медыцына адлятаюць у нябыт… Дзе ўзяць грошы на ўтрыманне апарату чыноўнікаў і міліцыянтаў? Яны ж нічога не вырабляюць – толькі спажываюць бюджэтныя сродкі. Даўгі па крэдытах растуць, іх трэба вяртаць. Вось і пагроза рэжуму – Рубцоў запатрабаваў змены бяздарнага кіраўніцтва краіны. Юры Рубцоў гэта другая ластаўка. Першая - кандыдат у прэзідэнты Мікола Статкевіч, які сказаў у выступе на БТ: "Саша, верні, што украл!.." і стаў палітвязьням, да сённяшняга дня ён за кратамі.

Рубцоў не палітык, просты чалавек, які зразумеў, што без змены кіраўніцтва краіны будучыня Беларусі цьмяная і апрануў кашулю з надпісам "Лукашэнка, зыходзь!". Знялі кашулю, зрабіў тату на грудзях з тым жа надпісам, маўляў, толкі са скурай знімуць.

Ужо не палітыкі, а звычайныя грамадзяне зразумелі дзе асноўная праблема краіны і як яе трэба вырашаць. Караючы Юрыя Рубцова рэжым намагаюцца запалохаць грамадства, каб прадухіліць масавыя пратэсты і надалей існаваць за кошт гэтасамага грамадства, простых і на сёння безабаронных людзей.

Суддзя Мікалай Рэпіха, падчас зачыткі выраку, згадаў, што Рубцоў здзейсніў злачынства супраць правасуддзя, а гэта азначае, што да канца терміну пакарання Рубцоў не будзе падпадаць пад дзеянне амністый. Але Юры Рубцоў мужны і прынцыповы чалавек, якога не зламаць. Менавіта ён, вязень, з-за кратаў падтрымлівае тых, хто на волі, і жадае сваім суайчыннікам аптымізму…"

## Хто патрабуе, той дамагаецца!

Працягваецца змаганне жыльцоў дома № 5 па вуліцы Савецкай Канстытуцы ў Берасьцеі з працаўнікамі ЖКГ-5 за прыборку под'ездаў. Сытуацыя даходзіць да абсурду. Жыхары дома павіны прымушаць



работнікаў ЖКГ выходзіць на працу і кантраляваць выкананне імі сваіх абавязкаў. Толькі пасля напісання чарговай скаргі ў кнігу "Заўваг і прапаноў" працаўнікі ЖКГ міласэрдна апускаюцца да выканання сваіх абавязкаў.

Справа тычыца ня толькі выканання работнікамі ЖКГ дамоўных абавязацельстваў. Справа ў іншым. Да кіраўніцтва ЖКГ прыйходзяць некампетентныя кіраўнікі. Жыхары дома сутыкнуліся з хамскім

адносінамі новапрызначанага кіраўніка ЖКГ-5 Ефімавай Наталляй Пятроўнай. Пры размове з новым кіраўнікам, аб сітуацыі з выкананнем паслуг камунальшчыкамі, калі той нагадалі, што паслугі па ўборцы аплачаныя Наталля Пятроўна заявіла: “ Вы там жывёце, смеціце, а мы прыбіраць павіны? Што вы пра грошы говорыце, я зараз дам вам 50 тысяч.”

У доме 120 кватэр, калі з кожнай кватэры сабраць па 50 тысяч рублёў, атрымліваецца сума ў 6 мільёнаў. За такія грошы можна лёгка знайсці добрасумленнага чалавека па ўборцы пад'ездаў.

На чарговую скаргу ЖЭС прыслаў адказ аб прыборцы толькі аднаго под’езда.

## Маю права на мірныя сходы

14 траўня ў Баранавічах у раёнам судзе разглядалі скаргу, якую падаў прафсаюзны актывіст Рыгор Грык на Баранавіцуі гарадскі выканаўчы камітэт. Скарга тычыца таго, што выканаўчы камітэт неправамоцна адмовіў ў правядзенні пікета на 1 Траўня.




На судзе прадстаўнік юрыдычнага адделу гарвыканкама патлумачыў, што ў заяўцы не было згадана – ці будуць задзейнічаныя машыны і піратэхнічныя сродкі.

Юрыст прафсаюза Уладзімір Малей на судзе заявіў, што гэта надуманая падстава для адмовы ў правядзенні пікета, у Арт. 5 Закону

“Аб правядзенні масавых мерапрыемствах…” замацавана, што ў заяўцы трэба пазначаць “калі будуць” задзейнічаныя машыны і піратэхнічныя сродкі, а калі іх няма, нашто пра іх згадваць”.

Суд па гэтай справе працягнецца 21 траўня.

Рыгор Грык кажа: “Я лічу, падставу для адмовы пікета неправамоцнай. Грамацтва мае права на мірные сходы. Улады ўвесь час забараняюць іх правядзенні па ўсіялякіх надуманных падставах. Мне прыемна, што аднадумцы прыйшлі мяне падтрымаць і падзяляюць мае погляды”.

## Патрабуем амністыю



13 траўня дэпутаты Палаты Прадстаўнікоў разгледзяць законапраект аб амністыі. Найвялікшая амністыя прымеркавана да 70-годдзя Вялікай Перамогі. З месца ўстаноў пазбаўлення волі могуць выйсці на волю больш за 2000 чалавек, а ўвогуле амністыя закране болей за 8000 чалавек. Пад амністыю не трапяць тыя, хто здзейсніў цяжкія і асабліва цяжкія злачынствы, звязаныя з забойствамі, тэрарыстычнымі актамі, незаконным абаротам наркотыкаў.

Сярод іх і былы кандыдат ў прэзідэнты, палітвязень Мікалай Статкевіч, які некалькі дзён таму быў пераведзены ў калёнію ўзмоцненага рэжыму. За кратамі Мікалай Статкевіч правядзе яшчэ 1 год і 7 месяцаў.




Адбывае пакараньне ў вёсцы Куплін Пружанскага раёну шырокавядомы грамадскасці актывіст Юры Рубцоў, асуджаны на 1,5 года “хіміі“ за знявагу суддзі Савецкага раённага суду Кірыла Палулеха, які пагадзіўся судзіць Рубцова паўраспранутым. Цяпер над Рубцовым трывае чарговы суд за тое, што ён



адмовіўся працаваць на “хіміі”. Палітвязень пагражае распачаць сухую галадоўку, калі судовы працэс над ім будзе адбывацца ў закрытым рэжыме.

Нагадаю, што Юры Рубцоў у 2014 годзе прыняў удзел у акцыі “Чарнобыльскі шлях” у кашулі з надпісам “Лукашенка, сыходзь”. Пасля гэтага на актывіста пачаўся перслед. Дарэчы, Рубцоў зрабіў татуіроўку з такім жа надпісам і прадстаў перад судом з голым торсам. Бо лічыць, што кожны чалавек мае права на сваю думку.

Адбывае свой тэрмін у Баранавіцкай турме фермер з Маларыцкага раёна Алесь Бяльчук. Ён трапіў за краты, бо бараніў сваю прыватную ўласнасць, самаробны трактар.

Берасьцейскія праваабаронцы і сваякі засуджаных лічаць, што вышейзгаданыя асобы несправядліва асуджаны і патрабуюць амністыі.

P.S. Акрамя згаданых асобаў шмат іншых палітвязняў, тыя ж анархісты, адзін з іх нават прашэнне напісаў пра памілаванне амаль месяц таму, яго так і не выпусіцілі…

**ПАТРАБУЕМ АМНІСТЫІ несправядліва асуджаных.**

## Вайна вачыма сведкаў

У Беларусі за часы Другой сусветнай вайны загінуў кожны чацвёрты беларус. “Дзень Перамогі – гэта свята са слязьмі на вачах”, гэтыя словы адбіліся ў нашых галовах, але ці засталіся ў сэрцах? Людзей, якіх дакранулася полымя вайны з кожным днём усё менш і менш. Ветэраны не любяць расказваць пра вайну, намагаюцца адысці ад гэтай тэмы, забыцца, але ці мы захоўваем у сваіх сем’ях памяць пра гісторыі нашых сваякоў?

Журналіст і краязнаўца Ігар Бараноўскі падзяліўся з намі ўспамінамі сваіх блізкіх: “ Памяць пра вайну - гэта памяць пра трагічныя лёсы канкрэтных, блізкіх табе людзей з твайго роду, якія загінулі або цудам выжылі ў той страшнай мясарубцы, а ня нейкія



ідыёцкія прапагандысцкія шоў з закліна́ннямі, дурацкімі налепкамі і рознымі стужкамі.

У вайну майго дзядзьку (мамінага брата) нямецкі вайсковы доктар уратаваў ад смерці, калі ён малым цяжка захварэў - кроў з горла пайшла, бабуля страшэнна перапужалася, з апошняй надзеяй (а што было рабіць?) кінулася сярод ночы да доктара.

А наогул, мне і мая маці, якая была ў вайну падлеткам, і бабуля з дзедам казалі, што страшней былі як раз ня немцы, а мадзяры. І начных візітаў партызанаў вельмі баяліся. І тыя, і другія былі абсалютна непрадказальныя ў сваім самадурстве".

Сваімі ўспамінамі з часоў вайны падзяліўся жыхар Берасця Страпко Міхаіл Мікалаевіч, вайна – гэта ўспаміны яго дзяцінства:

"Мне было 5 гадоў, калі на нашым хутары каля вёсцы Застаўе, што ў Драгічынскім раёне з'явіліся немцы. Яны прыехалі на матацыклах. Я быў хлапцом цікаўным, мне падабалася рыкаючая тэхніка, пачаў яе вывучаць мацаючы рукамі. Неўзабаве матацыкл перакуліўся. Прыбег немец і адлупцаваў мяне жаўнерскай папругай.

З нашай сям'і адзін са сваякоў быў у паліцаях, пайшоў за паёк служыць, ад галечы, нічога кепскага не рабіў. А мой старэйшы брат партызаніў, так вось, партызаны перадалі нашай маці ўльтіматум, што сям'я пацерпіць за сваяка-паліцая. Сваяк сышоў з паліцыі. Напрацягу ўсёй вайны сям'я хавалася ў лесе, у балотах. Паліцая забралі ў Чырвоную армію, дзе ён загінуў праз некалькі месяцаў. Загінуў у Чырвонай арміі і мой старэйшы брат Мікалай".

Узгадвае Ала Яўгенаўна з 1926 году нараджэння:

"Мне было 15 гадоў, калі пачалася вайна. Я пражывала з

бацькамі на акупаванай тэрыторыі ва Украіне у горадзе Днепрадзяржынску. Немцы пастаянна праводзілі аблавы, акружалі цэнтр горада, рынкі, забіралі моладзь на працу ў Нямечыну. Так і мяне схапілі ў чым стаяла, у тым і адправілі ў цягніку ў Германію. Прывезлі ў размеркавальны лагер, правялі дэзынфекцыю, мэдычны агляд. Патрапіла я ў Аўстрыю, працавала ўвесь час на гаспадара, было цяжка, але не скардзілася, бо і гаспадар шмат працаваў. Нават, калі хварэў, не звяртаўся да лекара, бо не было на каго пакінуць гаспадарку. Яны трымалі шмат быдла, амаль усю прадукцыю здавалі на патрэбу дзяржавы. Малако ў вялізных бядонах звазілі далёка ад хаты, пакідалі на дарозе, забіралі пустыя. Ніхто гэта малако не краў і не шкодзіў ў бядоны.

Аўстрыйская сям'я ставілася да мяне добра, але ўвесь час хацелася да дому, да маці. Напрыканцы вайны, пры першай магчымасці, я з сяброўкай пешшу адправілася на Бацькаўшчыну. Да нас далучыліся две жанчыны, адна цяжарная на апошніх месяцах, другая – сталага веку. Па дарозе сустрэлі і прывіталіся з нашымі савецкімі жаўнерамі. Ноч усіх застала пад адкрытым небам. У нас з сяброўкай было нядобрае прадчуванне што да вызваліцеляў, “галодных мужыкоў”, таму мы схаваліся пад страхой і зацягнулі драбіну, каб ніхто не ўлез. А нашых спадарожніц згвалцілі свае ж вызваліцелі. Бегалі, шукалі нас, але не знайшлі, а мы чулі, як бедныя жанчыны прасілі “не чапайце мяне, я цяжарная”, “сыночкі, што вы робіце, я вам у маці гаджуся”. Па вяртанні на Радзіму мне дакаралі ўсё жыццё, што я была на акупаванай тэрыторыі і працавала на немцаў”.

У кожнага свая гісторыя аб вайне, і гэтых гісторый безліч, і іх нельга забыць!

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»